

К. БУЙЛО.

# КУРГАННАЯ КВЕТКА.

# БЕЛАРУСКАЯ КНІГАРНЯ

**Вільня, Завальная, № 7.**

Вядзе згульніцкі і дробны гандэль беларускімі кніж-
камі, дастаўляе кніжкі аб Беларусі у друг х мовах,
прыймае да друкаваньня рукапісы.
Кніжкі беларускіе кнігарня высылае і накладной пла-
тай. Хто выпісывае накладной платай—даплачывае
ешчэ 10 кап. за накладную плату і 7 кап. за заказ.

Прыймаецца падпіска на газэты.
Гандлярам Беларуская кнігарня дае вялікую
уступку.
Каталогі высылаюцца дарма.

# „БЕЛАРУСКІ КАЛЕНДАР“

Выходзіць што год рускімі літэрамі і другое выдань-
не польскім літэрамі Цэна 15 кап., с перасылкай—
20 к. Прадаецца ва ўсіх беларускіх рэдакціях і
кнігарнях.

# Беларускае Выдавецкае Таварыства у Вільні.

прыступаючы да выдавецкай працы паведамляе усіх,
каму дарага справа беларускага адраджэньня, аб тым,
што таварыства ставіць сабе мэту у першы чарод
выпускаць у сьвет па сіле магчымасьці такіе кн гі:
Пісьмо сьвятое цэлае, Гісторыю старога і новага за-
кону для дзяцей у школах, Кніжку да набажэнства,
Эвангелічку на сьвяты і нядзелі Гісторыю касьцё-
ла для школ, Граматыку беларускую, Географію,
Слоўнік, Арытмэтыку, Кнігі для навучаньня у шко-
лах, Кнігі папулярные аб сельскай гаспадарцы. Вы-
давецтва звертаецца с просьбай да шаноўных пісь-
меннікоў прысылаць як можна найхутчэй сваё ру-
капісы выжэй азначэнных кніжак

Адрэс; Вільня, Каштановая № 5, кв. 4., Беларускае
Выдавецкае Таварыства.

КОНСТАНЦІЯ БУЙЛО.

# КУРГАННАЯ КВЕТКА.



ВІЛЬНЯ — 1914.
ДРУКАРНЯ МАРЦІНА КУХТЫ.

## То ня песьня...

То ня песьня мая так далёка ляціць,
Як хаўтурны той звон, гэтак шумна гудзіць,—
То ня песьня мая —
Не пяю гэтак я...
Гэта вырваўся енк з набалелай душы
І расплыўся кудысь сярод сумнай цішы,
І паплыў ён у даль,
І таіўся ў ём жаль;
Енкам ціхім паплыў
Між калосістых ніў...
То ня песьня мая —
Не пяю гэтак я.
Сваім болем глухім з дна душы ён людзкой
Зварушыў, спабудзіў рожных думачэк рой,
З імі зноў паляцеў,
Рэхам гулкім гудзеў,
Разліваўся ў далі між дрыгвы і балот,
То пад неба шыбаў, то кідаўся пад спод,
Аж расплыўся і сьціх,
Як пражыты той міг,
Што мігнуў у жыцьці
І прапаў ў забыцьці...
То ня песьня мая —
Не пяю гэтак я!...

# На крыльлі песьні.

*Р. Т—о.*

Ляту, нясуся ўзвыж, плыву па мягкіх хвалях...
Як добра, лёгка мне!
Гдзе я? Чырвонасьць зор, блакіт паднебнай далі
І сонца ясны блеск, і прозрыстасьць крыштальляў
Дрыжыць вакруг мяне.

Ляту, нясуся... Гэй, які абшар шырокі!
Як мгла — душа і грудзь.
Там гдзесьці, ў даліне—чуць-чуць дагледзіць вока—
Ляжыць яна—зямля... Так нізка, так далёка!
А тоны ў высь плывуць.

Мяне штось з імі рве, штось цягне страшнай сілай,
Якаясь моц нясе...
Што?—не згадаць ніяк—к жыцьцю ці да магілы...
І ведаць не хачу... Мне добра так, так міла
Ў высі нямой красе!

Ціха! Во штосьці ўкруг там дзіўна задрыжала,
А сэрцэ ў тон яму
Забілась моцна так... і біцца пэрэстала..
Дух змёр, а штось ў глыбі там глуха ныць пачала,
Щтось мчыць у ніз думу.

То болю ціхі стогн прарваўся ў сьветлай песьні
І міма праляцеў,
І сэрцэ дрыгнула, і дух заныў балесьне,
І згінуў сон... Ізноў ў чароўны край прадвесьні
Мчыць душу дзіўны сьпеў!...

## Ляці, думка...

Ляці, мая думка, ляці ты, галубка,
Ў далёкую даль —
У хмарку зьмяніся, стралою пусьціся
Між ветравых хваль.

Ў ягона ваконца праменьнямі сонца
Сьвятліста зірні:
Як час ён праводзіць, ці весела сходзяць
Ў жыцьці яго дні?

Здароўе як служыць, ці смуціцца — тужыць
Парою за мной?
А ясные вочы ці часам марочэ
Боль горкай сьлязой?

На ўсё угледайся, на ўсё прызірайся,
Усё зразумей...
Як будзе ён смутны, ты чарам магутным
Нуду ўсю разьвей.

Ў пасьцелі як ляжэ ды дум рой уражы
Гнаць стане ўсе сны:
Чарамі прадвесьня прапоўненай песьняй
Ты іх разгані.

І байкаю-казкай малёўны абразкі
Прад вочы стаўляй, —
Аб ясных дзён долі без жальбы, бяз боляў
На ліры іграй.

Як анёл бяз цела — дух ясны, дух белы —
За ім ты хадзі
І зоркай сьвятлістай, лучом праманістым
Век цэлы цьвіці.

## Каб я мела...

Каб я крыльле лёгкай птушкі
Салавейкі мела,
Ў гай вясёлы, гай зялёны
Я-б не паляцела.
Каб я мела голас звонкі,
Голас салаўіны,
Я-б сьпеваці не ляцела
На дрэўцаў вяршыны.
Я-бы с песьняй паляцела
Ў горад той далёкі:
Там ёсць дом пануры, сумны,
Цёмны і высокі.
На вакне закратаваным
С песьняй-бы я села
І вастрожнікам нешчасным
Сваю песьню-б пела.
Я пеяла-б аб свабодзе,
Аб шчасьлівай долі
І забыліся-б пры песьні
Яны аб няволі.
Галасамі дзіўных чараў
Я-бы залівалась,
Лясоў нашых, ніў прывольле,
Ўспомніць ім старалась.
І пад песьню маю думкі
Іх-бы прасьвятлелі,
Твары радасным-бы сьмехам,
Шчасьцем заясьнелі.
І не цяжкая была-бы
Ім тады няволя,
Бо пад песьню яны-б сьнілі
Аб шчасьлівай долі.

## У лесе.

Як я лесам іду — на душы лёгка мне:
    Я адна у лясной цішыне;

Аддыхаю душой. Тут, між елак, бяроз
    Не чуваць ані енкаў, ні сьлёз;

Тут між іх я люблю так хадзіць і хадзіць,
    Слухаць толькі што лес гаманіць.

Часам хочэцца птушкаю ў высь узьляцець,
    Між зялёных галінак запець,

І шчасьліва пажыць, і ня відзець бяды,
    Што пануе ў людзей заўсяды.

Тут люблю я глядзець, як дубочэк с сасной
    Ціха шэпты вядуць між сабой;

Як з расою-сьлязінай бярозка адна,
    Якбы мужа схаваўшы жана,

Да зямлі валасы апусьціўшы стаіць,
    Чагось сумна і нудна шуміць...

## Люблю...

Люблю наш край, старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасьце,
Сьлязу нядолі праліла.

Люблю народ наш беларускі,
Іх хаты ў зелені садоў,
Залочаные збожэм нівы,
Шум нашых гаяў і лясоў.

Люблю рэку, што свае воды
Імчыць ў няведамую даль,
І жоўтасьць берагаў песчаных,
І яснасьць чыстых яе хваль.

Люблю вясну, што ў кветкі, ў зелень
Прыстроіць цэлую зямлю;
На гнёздах буслаў клекатаньне
І сьпеў жаўраначка люблю.

Люблю гарачу сьпеку лета
І буру летнюю з дажджом,
Як гром грыміць, а ў чорных хмарах
Маланка зігаціць агнём.

І восень сумную люблю я
І першы звон сярпоў і кос
Як выйдуць жнеі збожэ жаці,
А касары — на сенакос.

Люблю зіму з яе марозам,
Што вокны прыбярэ ў вузор,

І белы сьнег, што ўсё пакрыўшы,
Ірдзіцца блескам ясных зор.

Люблю ў пагодную я ночку
Да позна на дварэ сядзець,
Сьлядзіць за зорачак дрыжаньнем,
На месяц залаты глядзець.

Люблю, як сонейка заходзіць
І берэг хмаркі залаціць,
Вячорнаго як голас звону
К нам з ветру хваляю ляціць.

І песьню родную люблю я,
Што дзеўкі ў полі запяюць,
А тоны голасна над нівай
Перэліваюцца—плывуць.

Усё ў краю тым сэрцу міла,
Бо я люблю край родны мой,
Дзе с шчасьцем першым я спазналась
І з гора першаю сьлязой.

## Да працы

О не кажы ты мне, што жыцьце надаела
І што на сьвеце жыць ня хочэш болей ты,
Бо ўжо ад мук жыцьця душа твая збалела,
А ў сьвеці столькі ёсьць гразі і цемнаты!

О не кажы, што ты ў жыцьці не маеш мэты
І што яе ніхто ў жыцьці сваім на меў;
Павінна мэтай быць усіх шырыць прасьвету,
Усіх, хто цьму жыцьця убачыць ўжо пасьпеў!

Нам сьветачамі быць! У цемнаце ніводнай
Нябачна зорачкі?... Мы будзем распаляць!
Да працы час, браты! Ніхто ніхай ня сьмее
Магутную руку бязсільна апускаць.

Да працы час, браты! Мы туманы развеем:
Бо, як ў пялёнках, ў іх наш сумны край ляжыць;
Каханьнем маладым мы дух яго сагрэем,—
Нізіны кіне ён і вышэй узляціць.

Да працы, гэй, браты! Мы з верай маладою,
С сэрцамі поўнымі мар сьветлых і агню
Мы сьвята выпаўнім жаданьне ўсесьвятое,
Аж злосьць адвечная пакіне нас, зямлю.

Аж больш ня будзе ўжо тых Каінаў на сьвеце,
Што ў братняе крыві маглі руку мачаць...
Як братняго каханьня сонцэ нам засьвеце,
Тагды ўжо па трудах мы пойдзем атдыхаць.

Цяпер да працы! Нам з адвагай і надзеяй
У сэрцах людзкіх дабра насеньне засеваць!
Да працы ўсе браты! Ніхто нехай ня сьмее
Магутную руку бязсільна апускаць!

* * *

Ціхім гоманам гордых вяршын,
Шэпатаньнем зялёных галін
Лес адвечную казку казаў;
Казкі той зразумець не маглі
Птушкі, што у ём гнёзды вілі,
Ані вецер, што там пралетаў.

Казку ту зразумеў чэлавек:
Лес казаў пра даўнейшы той век —
Ён гісторыю пеў старыны,
Што была таму сотні гадоў,
Аб жыцьці-быцьці нашых дзядоў—
Як і дзе пражывалі яны.

Ён аб войнах крывавых казаў —
С кім і дзе прадзед наш ваеваў, —
Пеў аб долі-нядолі яго;
Ён аб веры яго гаварыў:
Ў што той верыў, каго другам быў
І за ворага меў ён каго.

Ціхім гоманам гордых вяршын,
Шэпатаньнем зялёных галін
Лес казаў пра ад'жыты ўжо век,
І хоць казкі спазнаць не маглі
Птушкі, што у ём гнёзды вілі,
Яе ўсю зразумеў чэлавек.

* * *

Дзень сканаў за гарой, а над соннай зямлёй
Выплыў месяц пурпурна-крывавы;
Над разлогамі ніў хутка-шыбка ён плыў,
Прытрымаўся над соннай дубровай.

Між адвечных дубоў асьвяціў рой крыжоў,
У высокай траве прытаіўся;
Плямай яснаю поўз па курганах, як смоўж,
То малюнкам на небе лажыўся.

Ціш усюды—спакой... Над званіцай старой
Звон зыклівы раптоўна раздаўся;
Разам з ім—пад дубом—над старым курганом
Трэснуў камень і з гукам распаўся.

І ад дзіваў такіх вецер змёршы заціх,
Месяц хмаркаю ў небе закрыўся;
С-пад раскопаў зямлі цені шпарка ішлі,—
Во адзін з іх к крыжу прысланіўся.

У мазолях рука—верны знак мужыка,
Сьвецяць дзіўным агнём яго вочы;
І з грудзей гукнуў кліч: «Брацьця! ўсе, хто тут сьпіць!
«Брацьця, ўстаньма усе гэтай ночы!

«Сярод ніў ды палёў харалодаў-кругоў
«Мы натворым, успомнім былое;
«Песьню так завядзём, як тады, як агнём
«Ў нас кіпела жыцьцё маладое.

«Хай-жэ песьня ляціць, хай жэ песьня гудзіць,
«Разальецца па долах, па нівах!

«Нашай песьні такой не чутно с пары той,
«Якляглі мы у цёмных магілах.

«Прахадзілі гады, заціралі сьляды,
«Зацíралі сьляды нашых сьпеваў;
«Над разлогамі ніў іншы голас паплыў,—
«Сьпеў чужы плыў над нашым засевам.

«Брацьця! Ўсе, чым хутчэй хай з магілы сваей,—
«Брацьця, кожны на сьвет ■ вас выходзе!
«Мы ім песьню сьпяём, песьню зычну, як гром;
«Ў ёй раскажэм аб нашым народзе.

«Ў ёй пець будзем аб тым, што было, ды, як дым,
«Расплылося у віхравай хвалі, —
«Тую славу-пачот, якой слыў наш народ,
«Ды ўсё злыдні яму паскрывалі.

«Каб ніводзін із іх не чураўся сваіх
«Рук пакрытых карой мазалістай;
«Мовы дзедаў, бацькоў для гаворкі паноў
«Не чураўся ў хацінцэ айчыстай.

«Хто зямлі гэтай сын, ўстаньце ўсе, як адзін!
«Гэй, раздайся ты, песьня ўдалая!
«Хай твой зык паплыве, дзе народ наш жыве,
«Долю-мачыху дзе праклінае.

«Як забыўся пеяць, ўмее толькі стагнаць;
«Песьні болем яго налітые.
«Хай-жэ зычны наш сьпеў ўспомне ўраз, неўспадзеў
«Яму прошласьці дні залатые».

Чуць могутны прызыў да магілаў даплыў,
Разамкнуліся мігам магілы;

С-пад раскопаў зямлі цені шпарка ішлі
Хараводам між крыжаў пахілых.

Зычны родны напеў з іх грудзей паляцеў,
Словы радасьцю дзіўнай псялі;
К волі, к шчасьцю прызыў гдзесь над сёламі плыў
Рассыпаючысь рэхам у далі.

І замоўк дзіўны хор. Плыла песьня ў прастор,
Тоны доўга ў паветры зьвінелі;
Прадзядоўскі напеў над палямі ляцеў,
Посьле сосны аб ім ліш шумелі.

## Звон.

*Ахвярую Януку Купале.*

Ён плыў над палямі з ветранаю хваляй,
У даль пранасіўся, ляцеў,
Там рэхам гулкім над лесамі раздаўся,
То ціх, заміраў, то ізноў калыхаўся
Ў паветры і зычна гудзеў.

Зноў зважна, свабодна ляцеў над палямі,
Над нівамі, сёламі плыў.
А гукі яго дзіўнай нотай дрыжалі
То якбы ў задуме, то якбы у жалі,
То зноў якбы громкі прызыў.

Ён зваў да жыцьця і да лепшае долі
Ўсіх тых, хто йшчэ цьвёрдым сном спаў, —
І сну заклятога апалі аковы,
І ўстаў народ цэлы і ўстаў якбы новы,
Да новага жыцьця устаў.

## Ці помніш ты?...

Скажы мне, ці калі ў чужой зямлі далёкай
Успамінаеш ты край родны, сумны свой?
Ці часта к вам адтуль ты думкамі шыбаеш,
Да нас ляціш душой?

Ці помніш Беларусь, дзядоў тваіх зямельку,
Дзе дзецтва тваяго час хутка прапяцеў?...
Ці помніш дом бацькоў, за домам—сад зялёны,
Як ён тады шумеў,

Як мы с табой па ім хадзілі, ты казала:
„Пайду я у чужыну шчасьця пашукаць“,
А ён так зашумеў, якбы заплакаў з жалю,
Ці не хацеў пускаць?

А песьню родную ці помніш на чужыне,
Так сумную, як доля бедных мужыкоў?
О, колькі стогну там, жальбы душы збалелай
Пачуеш з яе слоў!

А вёскі помніш ты пакрыўленые хаты,
Ўсе зеленьню садоў прыбраны, як вянком;
Руччэй, што стужкаю опаясаў сенажаці
С песчаным берагом?...

А лес ці помніш ты на ўзгорачку за вёскай,
Што часта так у цевь ад сонца нас хаваў,
І слухаў нашых дум і сьветлых мар дзявочых
І штосьці ўсё шэптаў?...

Ці помніш гэта ўсё ў чужой зямлі далёкай?
Наш цёмны, бедны край, дзе столькі ёсьць бяды,
А ўсё ж-ткі мілы нам, бо ўсё у ім тут наша..
Край гэты помніш ты?

## Ноччу.

Месяц чырвоны, як кроў,
Над полем сонным ўзышоў;
Цішком як злыдзень цікаўся, —
Цераз ручай пераплыў,
Аж на даліну узбрыў,
Пад гушчу лесу прадраўся...
Блескам сваей твары ўсей
Кінуў ў разлогі палей,
На пушчу чорных курганаў,
На груды камней сівых, —
Пералічыў іх усіх,
Пад кожны кусьцік заглянуў;
Ці то ён штось погубляў,
Ці то чагосьці шукаў,
Сьвецючы сам сабе ў ночы,
Ці моцай скрытай лучоў
Зваў ў хараводы цянёў,
Каб чым парадаваць вочы...
Гдзесьці ў далёкай далі
Ветры парывам ўзнялісь,
Туман над рэчкай скруцілі
У адзін загналі безлад,
Круцячы—там, то назад,
У поле клубамі кацілі.
Лес шапаціў ўсё аб чымсь,
А па-над лесам, як дым,
Пара ўзнялась з верхавінаў...
Раптам раздаўся гдзесь трэск
Сухай галіны і плеск
Крыльля, і зноў сьціх, загінуў...
У вочы савы гдзесь сляпой
Ўбіў месяц ясны луч свой...

Ў гушчы збудзілась начніца,
Воўк у імшарах завыў.
І кроўю вочы наліў
Вылезла з дрэва куніца;
З млына над чорнай вадой
Піскучых кажаноў рой
Высыпаў — трэпле скрыдламі.
Да тонкай вольхі прынік,
Ўстаўшы са дна, вадзянік,
Ўпіўся ў русалку вачамі...
Ў вёсцы сабака завыў —
Ўчуў, што ў аўчарню забрыў
Воўк с сваей жонкай ваўчыцай...
. . . . . . . .

А над ўсім вокал царыць,
Ўсё пастараўшысь прыкрыць,
Ночка — цямроты царыца!..

## Хаўтурны звон.

Заенчыў, заплакаў з званьніцы
Стары ўжо і трэснуўшы звон, —
Абвесьціўшы сьмерць чэлавека,
Маліцца сазваў усіх ён.
    За белай сасновай труною
    Грамадне суседзі ішлі;
    Труну у магілу спусьцілі,
    Сыпнулі па жменьцэ зямлі.
Тут сон, тут спакой яму вечны,
Тут будзе прытульна ён спаць,
Па працы, трудох і цярпеньнях
Да суднаго дня спачываць.
    Спакою яго не нарушыць
    Плач жонкі, галодных дзяцей;
    Ня вырвецца гора енк цяжкі
    С худых і збалелых грудзей.
Сьпі, бедны зямлячэ! Не раз ты
Праз цэлую ночку не спаў,
А зморэны, потам абліты,
Мазольна на хлеб працаваў!
    Ніхто і ніщто не стрывожэ, —
    Тут будзеш як камень лежаць;
    Над крыжам магілкі забытай
    Зляціцца рой птушак сьпеваць.
Сьпі! Дай ты рукам атпачынку:
Дабра шмат зрабілі яны,
Хоць больш ты не маеш награды,
Кром гэтай сасновай труны.
    Нядоўга ўсе мы там паляжэм
    У гэтых магілах сырых;
    Сьпі, бедны землячэ! нядоўга
    Пасьпіш без суседзёў сваіх!...

## Лебядзіная песьня.

Плыла яна, лілась як громы, так магуча
С prапоўненых грудзей, с прапоўненай душы;
Як ветры, лёгкая, як буры, так кіпуча
Прамчалася кудысь ў пустынные цішы.

Мільёны тонаў там, у песьні тэй сплялісь:
Любоў, ненавісць, гром, агонь і бура ўраз.
Той, с чыйх грудзей такіе зыкі паліліся,
Раз першы у жыцьці пеяў, ды ўжо ў вапошні раз?

І змерлі тоны гдзесь ў пустыннай сумнай далі,
Бяз рэха расплылісь ў няведамым краю
І горны вецер там высока ўскалыхнулі...
А лебедзь?... Ён умёр, сьпеяўшы песьнь сваю...

* * *

Ноч позная. Вецер гудзіць, завывае,
Так жаласна-сумна шуміць;
А мне сэрца з болю ў грудзях замірае,
Душа так страшэнна баліць!

О, вецер! ты плачэш, ды ты йшчэ шчаслівы,
Свабодны ляціш у прастор;
Заенчыш — спагадна шумяць, стогнуць івы,
І плачэ с табой сівы бор.

О якжэ-б с табою ляцець я хацела,
Пакінуць і сьвет і жыццё!
С табой я летала-б, с табой-бы гудзела,
Жаль зліўшы ў тваё у выццё.

Мы-б ночкай насілісь ў шырокім абшары
Праз выдмаў вялікі разлог,
Праз пушчы лясные, балоты, імшары,
Гдзе-б толькі забрацца ты змог.

Ў выццё тваё, вецер, зліла-б мае стогны,
І выў бы ты болем маім, —
Мо сэрцэ людзкое спагадаю дрогне
Над болем вялікім такім.

Тады не адна я ўжо буду з думою,
Што цёмнае ночкі чарней...
Вазьмі мяне, вецер, летаці с сабою,
Спагады шукаць у людзей!

## Я шукала...

Я шукала цябе мілы мой ўжо даўно, —
Я шукала цябе выглядала,
Вось такога, як сьніўся ў дзявочых мне снах,
Хоць тагды я цябе йшчэ не знала!

Хоць ніколі цябе йшчэ не бачыла я, —
Ты мне сьніўся што ноч такі самы,
Як цяпер вось стаіш поўны дзіўнай красы
С прамяністымі ўзгляду лучамі.

Ты мне сьніўся што ноч — такі пекны, як бог,
Твае вочы так мягка ясьнелі,
І здавалася мне, што то анял сьвяты
Прыбыў сон мой сцярэгч у пасьцелі...

Дай руку мне — будзь братам маім дарагім,
Пойдзем разам жыцёвай дарогай,
Мо тады чуць ня будзем так моцна цярнёў
Што калечаць безжаласна ногі.

Хадзі, пойдзем па гэтай пуціне вузкой —
Нам гасьцінец аткрыецца біты,
Ткань золатам кветак, брылянтаў расой,
Траўкі шоўкам зялёным расшыты...

Дай мне руку! З далоняй ў тваей далані
Сэрцэ с сэрцам, а душа з душою
Пойдзем, моцные сілай каханьня свайго,
Мы жыцёвай дарогай — красою!

## Ў краіне мар.

Ў краіне мар паднебнай далі,
Гдзе зоры сьвет ракой лілі,
Ў праменьнях сонца мы спаткаліськ,
Не знаючы ешчэ зямлі.
    Я помню гэтае спатканьне,
    Пагляд гарачы помню твой
    Ясьнейшы зоркі залатой,
    Што мне ў душу уліў каханьне.
І ў божы дом шлі мы с табою —
Рука ў руку, душа з душой;
Блакіт ясьнеў над галавою,
Пад ногі ліўся сьвет ракой.
    А дружкі-зоры штось пеялі
    Аб шчасьці вечнаго каханьня;
    З далін зямлі на прывітаньне
    Нам кветкі пах свой пасылалі.
І сам нас Бог тагды зьвенчаў.
Ды ёсьць такі закон у Бога,
Што, хто цярпеньня не дазнаў,
Ня знойдзе к шчасьцю гдзе дарога.
    І душы ў цела прыадзеты
    К жыцьцю зямлі ён прысадзіў
    І на ўвесь час той разлучыў
    Каханьнем дзьве душы сагрэты..
С тых пор нам сэрцы крывёй льюцца..
Што-ж зможэ гэты боль уняць
Двух душ, што вечна к сабе рвуцца,
Ды пут ня могуць разарваць,
    Пут цела, што іх тут скавалі
    І разлучылі іх с сабой?!...
    . . . . . . .

    Боль гоне сьлязу за сьлязой,
    А шчасьце ціха зьяе ў далі.

## Помніш вечар?...

Помніш вечар: с табою мы ў чоўні былі,
І па возеры сонным плылі;
Месяц круглы з блакіту на нас пагледаў,
Залацістые косы ён путаў і рваў
Ў хвалях вод, што за чоўнам ішлі...

На душы нам так сьветла, так ясна было —
Мы шчасьлівы былі... Ты пакінуў вясло
І падняўся з руля, і сеў побач мяне,
І па соннай, гладкой вадзяной раўніне
Ціхім ветрам нас лёгка нясло...

Нам с табой не хацелась тагды гаварыць:
Мы баяліся возера с сну разбудзіць.
Маю руку ў свае ты паволі узяў, —
Лёгка сьціснуў і сьціха—ледзь чутна сказаў:
Праз жыццё гэтак будзем мы плыць!

Ізноў змоўк... Месяц з неба так ясна сьвяціў, —
Сваім блескам ваду ён усю залаціў,
А лазняк малады, што так рос над вадой,
Шэлясьцеў і шумеў і ківаўся над ёй,
Якбы нешта усё гаварыў.

Якбы думу сваю хвалі соннай шэптаў,
І галінкі свае ў вадзе яснай купаў.
Раптам вецер аднекуль шальны наляцеў,
І трывожна і громка лазьняк зашумеў...
— «Будзе бура»,—ты ціха сказаў.

С шумам хмара з-за лесу йшла з ветрам на нас;
Ў небі бліснуў маланкі агонь і пагас,

А віхор на вадзе закруціў—зашумеў,
А на небі ўжо гром раскаціўся — грымеў,
Ў хвалі кідала лодку і нас. .

Ты-ж весла ухапіўся і сьмела устаў;
Лодку кідала, гнала — ты сьмела стаяў!
Хвалі гнаные ветрам стагналі, раўлі,
С плескам брызгалі ў лодку і далей плылі;
Ты ня дрогнуў — стаяў — веславаў...

І здавалася мне, што ты бог над вадой;
Не баялась я буры, бо ты быў са мной.
Ты прыгнуўся, спакойна руку маю ўзяў
І, заглянуўшы ў вочы, мне моцай сказаў:
— «Будзь спакойна: я — тут, я—с табой»...

Хоць нас вецер шалёны на хвалях насіў
І хоць човен ён гнаў, і кідаў, і круціў, —
Ані разу ад страху ня дрыгнула я,
Бо ў руках у тваіх рука была мая,
Бо ты, мілы, са мною там быў!..

## Чаму?...

Скажы, мілы, чаму —
Толькі гляну я ў вочы твае—
Мне здаецца, што ноч прад сабою я маю?
Так глыбокі яны, як яна,
І так ясны, як зоркі яе.
Ажно часам я вочы свае прыжмураю...

Скажы, мілы, чаму
У глыбокае іх глыбіне,
Як на кніжцэ патчас — так чытаць я гатова?
Уся глуб твайго сэрца у іх
Чорна-ясным атсьвеціцца дне,
Адабьецца ляпей і ясьней, як у словах...

Чаму с сілы усей
Часам хочэцца мне закрычаць:
Не глядзі — адвядзі ад мяне свае вочы!
Бо ўсё тое, што часам у іх
Мне удасца ўглядзець, прачытаць,
То мне разум, душу і ўвесь сьвет замарочэ?...

Не глядзі!... Я — ў сваю,
Ты ў сваю у старонку пайдзём;
Мы — чужые, чужымі і будзем век цэлы,
Хоць твой ўзгляд, як-бы бондар які,
Усе думкі мае абручом
У адзін круг скаваў, круг чароўны і цэлы...

Будзь здароў-жэ цяпер! —
Я іду — ўжо пара мне ісьці!
Не глядзі — ўжо і так душа поўна табою...
То, што ў сэрцэ ты мне заранiў,
Як той сьветыч — у цёмным пуцьці
Будзе вечна ісьці і сьвяціць прада мною.

## Дзяўчына.

Ўжо сьвечка пагасла, ўжо ноч за вакном...
Ў пасьцелі мне душна, ня сьпіцца...
О сон! Ты самкні мае вочы скарэй,
Мо мілы сягоньня прысьніцца!

Гадзіны ідуць, я ў пасьцелі ляжу,
І сон не змыкае мне вочы,
А месяц праз вокны лье сьвет залаты,
Малюнкамі сьцены залочэ...

Устану с пасьцелі, вакно атчыню, —
Мо вецер, што ў полі гуляе,
Мне скажэ, што робіць мой мілы цяпер; —
Мяне як даўней ці кахае?...

У небе спакойна так зоркі дрыжаць,
А ветрык лісточкам шапочэ;
Запеў салавей звонкай трэльлю сваей, —
Заплачэ, то зноў зарагочэ...

І ветрык, і зоркі, і месяца сьвет,
І звонкая трэль салаўіна,
Здаецца, што гэта гукае ўсё мне:
— «Цябе ён кахае, дзяўчына»...

А ночка халодна: ўжо чую, як мне
Дрыжаньне пабегла па целі;
Іду ўжо, лажуся у цёплай маей
І мягкай і белай пасьцелі...

. . . . . . .

Заснула дзяўчына, а месяца сьвет
На вочы і вусны лажыцца.
Праз сон штось сьмяецца дзяўчынка мая:
Відаць, што ўжо мілы ей сьніцца.

## Не магу...

О не, я не магу, ў мяне ня хопе сілы
Вырваць з душы маей і с сэрцэйка майго
Маю любоў ■ табе, твой вобраз дзіўны мілы...
О не, я не магу, — ня вырву я яго!

На мысьль адну аб тым ад болі сэрцэ млее...
На што-ж, нашто было цябе мне палюбіць?
Тваей быць не магу — на то нема надзеі, —
А без цябе... О не, я не магу так жыць!

За твой пагляд адзін ўсё аддала-б на сьвеце —
І славу, і пачот, і шчасьце у жыцьці...
Пазволь апошні раз на цябе пагдядзеці,
Пацалаваць цябе, а потым памярці!...

# Як я цябе люблю..

Як я цябе люблю, — хай скажэ гэта морэ,
Што у грудзях маіх бушуе, — хай гаворэ
Аб гэтым сэрцэ, што паглёд тваіх вачэй
Сон прабудзіў яго, аж дрогнула сільней

І так забілася, як птушачка у клетцы,
Што вырвацца з грудзей хацела ўжо здаецца...
Як я цябе люблю, — хай скажэ салавей,
Што ночкамі пеяў над галавой маей;

І ночкі гэтые — бяссонные ўсе ночы, —
Што да цябе нясьлі рой дум маіх дзявочых,
Як ты далёка быў — далёка ад мяне...
Хай скажуць зорачкі ў блакітнай вышыне,

Што там, вось, як цяпер, дрыжэлі, мігаталі,
А мне здавалася, што нешта ўсё шэпталі,
А ты тагды на іх глядзеў, і з вышыны
Пагляд твой да мяне звярталі стуль яны...

Як я цябе люблю, — не скажуць толькі людзі, —
Бо змогуць-жэ яны заглянуць там—у грудзі,
Убачыць сэрца глуб — агнёў каханьня морэ,
І зразумець, аб кім, бушуючы, гаворэ...

## Ізноў спаткаліс мы...

Ізно спаткаліс мы, ізноў сышліс дарогі,
Ізноў я прад табой
З балючым сэрцам, дзе сабралась смуткаў многа,
Са змучэнай душой.

Нехай-жэ пры грудзях тваіх я выльлю сьлёзы, -
Аткрыю хай душу;
Што сэрцэ абвіло вянком калючэк рожы, —
Усё нехай скажу.

Паслухай — хоць цябе ўсё гэта можэ знудзе —
Нявесялы мой сказ —
Дай, выказаць усё,—мне гэта можэ шчасьцем будзе
У жыцьці без прыкрас.

Дай выказаць усё, і чуткаю душою
Душу маю сагрэй,
І будзе мне лягчэй пуцінай йсьці крутою,
Жыць будзе мне лягчэй!

## Не глядзі ..

Не глядзі на мяне... Маё сэрцэ так бьецца, дрыжыць;
Тваe вочы ў крыві у маей запаляюць агонь.
Ты глядзіш на мяне —без цябе мне ня хочэцца жыць.
А с табой не магу,—не магу жыць ніколі с табой!

Не глядзі! Тваe вочы ясьнеюць, як неба у дзень,
Якбы зоркі у небе—так ясна, так мягка блішчаць;
Мой пагляд у іх тоне, бы ў той у марской глыбіне...
Не хачу ўжо глядзець, а вачэй не магу адарваць.

Не глядзі! Ты глядзіш, а тады так хацелася-б мне
Мой распалены твар да грудзей да тваіх прытуліць
І глядзець ў тваe вочы ўвесь век і на яве, і ў сне..
Не хачу... А цябе не магу, не магу не любіць!



Не хачу я нічога казаці табе,
Бо баюся што ў словах маіх
Выліецца каханьне маё для цябе,
Што усё зразумееш ты з іх.

Не хачу я глядзець, каб з маіх ты вачэй
Тайны сэрца майго не згадаў,
Каб паблеск іх таёмных, гарачых лучэй,
Як цябе я люблю — не сказаў.

Я каханьне маё пахаваю ў душы,
Спакой сфінкса на твар налажу,
І хоць сэрцэ ад болю сканае ў грудзях,
Я нічога табе не скажу.

А калісь, як на вечны спачын адыйду,
І зямля як пакрые мяне,
Ніхай вецер з магілы маей паляціць
І слоў колькі табе пашапне.

Хай зязюля вясной кукаваньнем ў гаю
Аб любві табе кажэ маей,
Хай гаворыць аб ёй кветкі пахам з лугоў
І пеяньнем сваім салавей.

## Памятны дзень.

З лет даўнейшых маіх помню дзень я адзін:
    Весна была, скаўроначак пеў;
Каля ног серабрыстая рэчка плыла,
    А над ёй лазьняк ціха шумеў.
Я — дзіцяцяй ешчэ — чуць падросткам была, —
    Шоў петнаццаты год мне тады;
У той дзень я над рэчкай вяночкі віла,
    Прыгледаючысь ў люстры вады.
Поўна сетка мая ўжо была матылькоў,
    Вянкі пышнай лежалі гурбой,
Прымерала я іх, сьмяючысь як дзіцё...
    Ты зьявіўся тады прада мной.
У той памятны ясны і сонечны дзень,
    Як цабе толькі ўбачыла я, —
Ўраз прапалі на век жывасьць гуляў маіх
    І дзяцінная ўцеха мая.
Як-бы Бог хараства, ты стаяў прада мной
    С сьмелым поглядам дзіўных вачэй;
Многа новых, незнаных мне дум пабудзіў,
    Сэрцэ білась сільней і сільней.
Посьле, помню, як лета ўсё ў міг нам прайшло;
    Часта мы спатыкаліс с табой, —
Я любіла цябе усім сэрцам маім,
    Усей сілай душы маладой.
Прышла восень с сумлівым халодным даждэом,
    Туманамі зямлю спавіла,
Птушкі ў вырай пачалі усе вылетаць;
    Нам расстацца пара падыйшла.
І расталіся мы, і расталісь с табой...
    Як? — Ня помню — надарма пытаць...
Адно толькі с тых пор болей я не магу
    Па дзіцячаму пець і гуляць.

# Адна.

Адна, ізноў адна, як колас той у полі
Не сьцяты ў час жніва нагострэным сярпом,
Зламаны ветрамі гулячымі на волі
Між апусьцелых ніў, спалосканых даждЖом.

Адна, ізноў адна... Тужліва сэрцэ ные.
Наўкола пуста, глуш... Ноч цёмная стаіць.
А за вакном віхор так жаласьліва вые,
Якбы сканаць ня мог, няхочучы больш жыць.

І сумна, сумна мне. Дзе-ж той каго любіла?
Дзе-ж тые, што мяне любілі так даўней?!...
Адны забыліся, другіх ўзяла магіла...
І жаль мне прошлых мар, шчасьлівых шкода дней.

Адна, ізноў адна... А вецер думцы ўторыць
І стогнамі мяне ўцешае ён сваймі:
— Я — брат табе, я друг, мне стогнучы гаворыць,
Адзін нас ломіць боль - дык плачмо-ж разам мы!...

## Кветкі.

Гляджу на паблекшые рожы лісткі,
Што зьвяўшы лежаць прада мной,
І сэрцэ сьціскае боль нейкі цяжкі,
Туманяцца вочы сьлязой...
    Ёсьць дзіўная сіла у гэтых лістках:
    Чуць толькі я гляну на іх —
    Мне прошласьць яны ўспамінаюць на міг,
    І тону ў чароўных я снах.
І сумна мне вельмі, што гэтые сны
Так скора прасьніла ўсе я,
Што болей ня верніцца зноў да мяне
Сьветляная прошласьць мая.
    Тагды йшчэ ў душы маей вера жыла,
    Было шмат у сэрцы надзей;
    Свабодная сьветлаю думкай маей,
    Высока шыбаць я магла.
Сягоньня... Сягоньня таго ўжо німа,
Сягоньня я с смутнай душой,
Як тая, пакрытая слоем дзерна,
Магіла с сваею труной...
    Хоць траўкай вясною адзенецца зноў,
    Хоць кветкі красуюць на ёй, —
    Мы-ж знаем, што ў нутры шмат толькі чарвей,
    Што трупа скрыў пекны пакроў.
А я у магілу схавала сваю
Вялікі гроб вечны — душу;
У ём пахавала ўсю прошласьць маю —
Ўсё гэта ў сабе я нашу.
    Сягоньня хоць сьмех мне на вуснах дрыжыць,
    Хоць гляну патчас весялей, —
    То ўсё толькі кветкі магілы маей,
    Што хочуць нутро ў ёй прыкрыць.

# Шэрая гадзіна.

Зьмеркаецца. Люблю я вельмі гэты час...
Ўжо сонцэ скрылася за лесам, за гарою,
Зямлю апошні луч цалуе ешчэ раз,
Ноч заручаючы цалункам тым з зямлёю.

Спавіўся мглою сумнаю увесь абшар;
Бярозка шэпчэцца с чырвонаю калінай,
Па небі сунуцца грамады сонных хмар,
Туманы сьцелюцца над мокраю далінай.

На неба месяц залаты за хмары ўзлез
І з вышыні сваей зямлю ўсю агледае,
Таёмна шэпаціць аб чымсь пажоўкшый лес
І жудасьць нейкую на душу наганяе.

А мары так тады лятуць-лятуць з душы,
А з імі і яна у сьвет незнаны рвецца,
І страшысся чагось ў паўцёмнае цішы,
То зноў за чымсь тужыш... Ляцела-б гдзесь, здаецца...

То раптам хочэцца — да болю — памярці,
Што хоць ты зараз тут вазьмі ды конч с сабою
Дый з будучыні гдзесь надзея заблішчыць
І запануе ўраз над сьмелаю душою.

І с смуткам неякім ізноў глядзіш у даль,
Штось там ў глыбі душы зварушыцца, здаецца,
Ды зноў замрэ... Ў грудзях ўставае нейкі жаль,
А сэрцэ беднае так хутка-хутка б'ецца.

## У бяссонную ноч.

Ляжу я бяссонна у цёплай пасьцелі,
Вачэй не змыкае мне сон, —
А думкі снуюцца, як нітка с кудзелі,
А толькі ня сьветлы, як лён.

Мне сумна. Ноч цёмна. Віхор за вакнамі
Нуду навевае шуміць;
Бярозка малая сваімі лісткамі
У шыбы ўсё сьцішна гручыць...

Мне страшна!... Мурашкі пабеглі па целі...
На яве ўсё гэта, ці ў сьне?!...
Во, цені нясуцца... лятуць, праляцелі...
Патходзяць... ідуць да мяне!!!...

Іх целы правідны, як мгла над палямі,
І ў сьлед ім дым чорны ляціць;
Зялёные вочы іх сьвецяць агнямі,
Агонь пад нагамі гарыць...

Во! зьбіліся ў кучу, бяруцца за рукі...
Во! круцяцца, ўюцца, лятуць...
Пакрыўлены твары іх з болю і мукі.
Во! песьню пачалі, пяюць:

— «Хоць цяжка у цёмных магілах нам быці,
«Хоць грудзі гніюць пад зямлёй
«Ізноў туды пойдзем, ня хочэм так жыці,
«Там лепш у магілі сырой»...

Лятуць... Праляцелі і слоў іх ня чутна,
Здалёк толькі голас зьвініць;
Лятуць у магілу, бо жыць так гаротна
Як мы — дык неварта каб жыць!...

## Мне сьніўся сон.

Мне сьніўся сон, што ты у нас,
Што ня чужы мне, як даўней,
Пагляд тваіх жывых вачэй
Вярнуў надзею мне йшчэ раз.

Ізноў шчасьлівай я была,
І сэрцэ радасна так біла...
Ў душы маёй была весна,
Бо ты са мною быў, мой мілы.

## Р а н а.

О, не кажыце вы, што рана загаілась,
Што меней кроў яе ўжо аблівае:
Хоць сьлёзаў не відаць, ды енкі не спыніліс;
Хоць часам нават сьмех на вуснах заіграе, —

Глыбокая яна — згаіцца ёй няскора...
Недатыкайцеся-ж небачнымі рукамі,
Бо хоць і змоўк вулькан, застыла лавы мора,
Нутро яго кіпіць гарачымі агнямі!..

## Над сьвежай магілай.

*Памяці таварыша Станіслава Станюлевіча.*

С сьвежых лісяцеў чуцьця упляту я вянок
І злажу на магілу тваю;
Пэрэвяжэ яго дум жалобных маток,
Што апутаў душу ўсю маю.

На магіле вянок вечна сьвеж будзе мой,
Вечна зелен там будзе лежаць;
Ён ўхарошыць твой гроб сваей вечнай красой,
Ён сны будзе табе навеваць...

Сьпі, мой браце, спакойна! — Дарога жыцьця
За крутая была для цябе;
Луч ідэі пагас, паў сярод ты пуцьця,
А ніхто не памог у жальбе.

А ніхто рукі братняй табе не падаў, —
Ты адзін быў ды цемра укруг;
Сьветач ў перадзі згас, і бязсільна упаў
Твой збалелы замучэны дух.

Сьпі, мой брат малады! У грабовай цішы
Ніхай будзе спакойны твой сон;
Не баліць ужо сэрцэ, — спакою душы
Ўжо ня муціць больш бліжняго стогн.

Сьпі, мой брат малады. — Мой бяссмертны вянок
Я злажу на магілу табе;
Переважэ яго дум жалобных маток,
Што над ёю кружацца ў жальбе.

На магіле вянок вечна сьвеж будзе мой,
Вечна зелен там будзе лежаць;
Ён ўхарошыць твой гроб неувяднай красой,
Ён сны будзе табе навеваць!

# Ноч.

Ноч. Месяц на небі пурпурна-чырвоны,
Панура так зоры гарАць,
А вецер летае, гудзіць, як шалёны,
Штось гоніць, штось круціць, рве с стрэхі салому,
Будыніны глуха трэшчаць...

Стрэляючы голымі ў верх галінамі,
Лес пошумам страшным шуміць,
Ў вяршынах лясун разгуляўся з ведзьмамі,
То розгу ў іх кіне, то сыпне лістамі,
То рогатам дзікім сьмяшыць.

На рэчцы ля млына, атпёршы засовы,
Сівы вадзянік устае
І з гукам з дна рэчкі пясок ён жвіровы
Нясе, насыпае у колы жарновы
І, мелючы, дзіка пяе.

Ноч цёмная поўна загадачных згукаў:
Штось шэпчэ, то зноў шэлясьціць,
То якбы заенчэ ад страшных хтось мукаў,
То ў далі хтось дзіўна, працяжна загукаў
І сьціх, толькі вецер гудзіць.

І страшна і нудна, аж дух замірае, —
Баішся і вочы самкнуць.
Здаецца, хтось байку страшную дзесь бае,
То якбы хто плачэ, то бытцым сьпевае...
Дрыжыш і ня можэш заснуць.

## Матыль.

Я бачыла раз, як матыль залатакрылы,
Парваўшыся з зямлі, ў гару хацеў ўзьляцець,
Ды дзень яго ўжо змёрк — і ён, як ліст, бяз сілы
Апаў зноў на траву, падняўшыся ледзь-ледзь...

Так ты ляціш усё мой бедны дух [redacted] надзеяй,
Так рвешся ты у высь ў жыцьця наўрочны час ..
Глянь-глянь твой небасклон зьмеркаецца бляднее,
Йшчэ дзень твой не настаў?...
Шак ён ужо пагас!

## Туга.

Прышла ты да мяне ў паўночны ціхі час,
Прысела на маей раскіданай пасьцелі,
І сон мой адляцеў кудысь далёка—ўраз,
І мары сьветлые кудысьці адляцелі,
І былі мы с табой ў паўночы ціхі час...

І ўраз знайшлася я ў галубленьнях тваіх:
Ты абвіла мяне гарачымі рукамі,
Палючых вусн агонь лёг на грудзях маіх,
А ў вочы мне сваймі панурымі вачамі
Ўпілась ты, й мёрла [redacted] мук ў вабьяцьцях я тваіх...

## Раніца.

У вакно маё яснасьць глядзела
Ўсходам ясных, вялікіх вачэй
З русалчаных сьвятлістых плячэй;
Росы мглістые хваляй ляцелі. .

Яе вусны штось ціха шэпталі:
Туды звала здаецца яна,
Гдзе с праменьнямі ветры гулялі
Ды віднела палёў шырына...

— Хадзі, пойдзем, пакінь нуду злую,
Хадзі, пойдзем далёка са мной;
Завяду цябе ў ясны сьвет мой
І ўсе чары яго пакажу я.

І праменьні ў вакно мне кідала
І красою маніла сваей,
І ў душы мне сьвятлецi пачала
Пад пагляд яе сьветлых вачэй.

# Р у т а.

У гаршочэк зямлі я даўно ўжо калісь
Кветку руты жывой пасадзіла;
Палівала яе, дагледала яе, —
Мая рута на дзіва ўрадзіла.

Расплеталісь кусткі, як вяночкі, лісткі
Аплялі мой гаршочэк наўкола;
Дзеўкі замуж ішлі — з маей руты вілі
Вянкі дружкі, пасеўшы ўвакола.

Сколькі-ж песень тады тут лілося над ёй!
Галаскі, як званочкі, зьвінелі;
А руцяны вянок зелянеўся, як луг,
Патануўшы ў зэлёнавай белі.

І хоць рвалі яе, хоць шчыпалі яе, —
Маей руты саўсім не ўбывала:
Зелянела яна, красавала яна,
Мой гаршочэк вянком аплетала.

Толькі помню я раз, на Вялікдзень, якраз,
Да Галіны прыехалі сваты;
Дзеўка ўпёрлась ня йсьці, дый змусілі бацькі,
(Малады быў ўжо надта багаты).

З маей руты сплялі ей зялёны вянок;
Многа сьвечэк гарэла ў касьцелі,
Маладую ўвялі... а твар белы яе
Йшчэ бялей ад зэлёнавай белі.

Чорны вочы сухім заіскрылісь агнём,
Вусны дрогнуўшы штось зашэпталі;

Ці малілась яна, ці кляла мо каго,
Заглядзеўшысь на штосьці у далі.

А руцяны вянок у праменьнях агнёў
Брылянцістай расіцай ірдзіўся;
Ці то дожджык скрапіў, ці мо толькі раса,
Ці сьлязьмі маладой ён абліўся?

Раптам — Veni Creator — азваўся арган,
Расплыліся бурлівые тоны;
Хістанулась Галіна, зьбялеўшы, як сьмерць,
І легла на каберцу са стогнам.

Разаслалась сьняговая вэлёна бель
Ваўкруг цела абмершай дзяўчынкі,
З вусн яе паплыла тонкай стужачкай кроў,
На шчэках заблішчэлі сьлязінкі.

Дарма звалі яе дружкі, клікала маць,
Дарма клікаў жаніх некаханы, —
Разарвалася сэрцэ ў дзявочых грудзях,
Запягнуліся вочкі туманам

Ліш вяночэк адзін зелянеў, як даўней,
Ды расой брылянцістай ірдзіўся,
Ці то дождждык скрапіў, ці халодна раса,
Ці мо сьлёзкамі так ён скрапіўся?...

Вось с тагошняго дня маей руты вянок
З дня на дзень вяў і сох што раз болей;
Ці вады не ўзлюбіў, ці то гэтак ён шчах,
Над Галінчынай жалючысь долей?

І цяпер у мяне ён стаіць на вакне,
Пачарнелі зялёны галінкі,
Ліш пад час сярод дня заблішчыць штось на іх—
Ці раса то, ці можэ сьлязінкі?

* * *

Гдзе Вільля у Нёман ліе свае хвалі,
Я ў сумнай задуме стаю;
Купаецца месяц ў вод чыстым крыштале,
Яны-ж с ціхім шумам плывуць усё далей,
Душу к сабе цягнуць маю.

Здаецца, штось шэпчэ у цёмнай глыбіне,
Здаецца, штось маніць, заве;
— Хадзі, — ў нашай глыбі ціхой сапачынеш,
Журба ўжо ліхая на векі загіне, —
Тут толькі ўцячэш ад яе.

Хадзі, — мы у нашы сярэбраны хвалі
Спаўём, як дзіцятка, цябе,
І рыбак адгонім, каб сну не зганялі,
І скажэм, каб вербы шумелі, пеялі —
Сны-байкі шэпталі табе!..

## Русалкі.

Месяц. Ноч. У нізкіх долах туманы зямлю пакрылі,
А над возерам так ціха-ціха дрэўцы шэлесьцяць,
Ўсё заснула, спачывае ў халадочку летняй ночы.
Зоркі ў небі так спакойна і таёмна так дрыжаць.

Не ўздрыгне, не скалыхнецца возера гладзь
люстраная;
Месяц, зоркі залатые прыглядаюцца у ёй...
Із падводнаго палацу пагуляць на сонных хвалях,
Ў блеску месяца купацца выляцеў русалак рой.

Мглой сярэбранай адзеты; косы—бытцам залатые;
Вочы сініе, як неба, якбы зорачкі блішчаць.
Ўсе вясёлы, на лісточках водных лілій паседалі
І на месяц пазіраюць і штось ціха шэпацяць.

Адна толькі невясёла,—твар рукою закрывае;
Стогн жальбы із набалелых вырываецца грудзей:
— Дзе-ж, о дзе ты, дарагі мой?! Ці-ж ня лепей
тут са мною,
На дне возера жыць вечна, як на сьвеці між людзей?

Ці ня лепей тут чуць зоры; на шырокім вод абшары
Вечна толькі весяліцца і бяз гора вечна жыць, —
Як на сьвеці праз век цэлы бытцам рыба аб лёд
біцца,
Праз век цэлы працаваці, ў недастатку вечна быць?—

О, прыйдзі, прыйдзі! С табою ў дзень на водных
траў пасьцелі
Аж да вечара дзень кожны будзем мы спакойна
спаць, —

А, чуць месяц зноў засьвеціць, па люстранай вод
раўніне
Будзем лёгка пранасіцца і купацца і гуляць!...

Да русалак даляцела жальба сплаканай русалкі,
І, сарваўшыся ўсе роем да яе яны бягуць,
А с-пад ног іх, у брылянты прамяністы пазменяны,
С шумам брызгі вадзяные паднімаюцца лятуць.

І, пабраўшыся за рукі, ўсе русалкі лёгкім колам
Каля сплаканай русалкі сталі весела гуляць, —
Да сабе яе прасілі і сьмяяліся, круцілісь,
Ўрэшці ціхім стройным хорам пачалі яны пяяць:

— «О, не плач! Не плач, сястрыца, што твой мілы
не прыходзіць.
«Прыкажы, і, што ты хочэш, мы усё табе дадзім!
«Толькі ты аб ім ня думай! Во, глядзі: схаваўся
месяц.
«Хадзі! Разам у палац мы наш падводны паляцім».

І яе за рукі ўзялі, — лёгка-лёгка, у тахт песьні,
Закруцілісь і прапалі у халоднай глыбіне.
Сьціхла ўсё... І толькі ў далі сьпеў русалчын
раздаваўся.
І па сонных вод раўніне данасіўся да мяне...

## Курган.

Там, дзе быстраю хвалею рэчка плыве,
У даліне між цёмнага лесу,
Прытаіўся высокі зялёны курган
Пад плакучых бярозак завесай,
    Рож зьдзічэлых кустамі зарос ён увесь, —
    Хто садзіў іх — ніхто тут не знае, —
    Між рож камень стаіць; пазалоту з яго
    Сьцёрла часу рука векавая.
А на камені напіс: «Пад тым курганом
Лежаць двое — хлапец і дзяўчына:
Пад бярозкай зялёнай схаваны Янук,
Пад кустом рожы дзікай — Галіна».
    Хто іх тут пахаваў і былі кім яны, —
    Напіс гэты не кажэ нічога.
    Аб усім давялося даведацца мне
    Ад вандроўнага дзеда старога.
— «Шмат гадоў працякло, як было гэта ўсё», —
Пачаў дзед, — «на гары над далінай
Двор вялікі стаяў. У двары тым жыў пан
Нейкі з дочкай прыгожай, Галінай.
    Тут, бывала, што-ноч цэлы двор у агнях;
    Шмат паноў адусюль наеждж ае,
    Цэлу ноч п'юць, пяюць і гуляюць яны;
    Без устанку музыка іграе,
А чуць сьвіт раз'еджджаюцца ўсе, хто куды;
Спаць кладзецца і пан і дружына.
Як замрэ цэлы двор... Адна толькі не сьпіць
У дварэ маладая Галіна.
    Яна хутка ўстае, бо пад дубом ужо
    Янка ціха на дудцы іграе, -
    Тут, бывала, што-дзень стада белых авец
    Ён на пашу у лес прыганяе.

І прыгожы-ж быў Янка: хлапец, хоць глядзі!
Твар, як кроў з малаком памешана;
А яго валасы чорны й цёмны, як ноч,
У стручочкі былі пазьвіваны.
    Там, бывала, пад дубам пасядуць яны,
    Ціха-ціха на дудцы ён грае, —
    Стада белых авечак паляжэ укруг,
    А Галіна вяночкі сплетае.
Але трэба-ж бяды — Адзін пан малады
Прысылае сватоў да Галіны.
Бацька рад, на вясельле склікае гасьцей,
Хоць ня хочэ йсьці замуж дзяўчына.
    У двары зноў банкет: пьюць, гуляюць, пяюць,
    Рой дзеўчат маладую ўбірае:
    Яна-ж, вочы самкнуўшы, на крэсьлі сядзіць,
    Толькі белые рукі ламае...
Посьле ўстала, памалу ідзе да дзьвярэй...
— Пачэкайце, вярнуся! — сказала.
На двары чэкаў Янка, — на рукі яго,
Абамлеўшы, Галіна упала.
    Час ляцеў — маладая назад не ішла...
    Прапеталі мінуты, гадзіны...
    Над ракой нейкі крык... скалыкнулась вада...
    Ў ёй прапалі Янук і Галіна...
Тут, пад тым курганом, бацька іх пахаваў»...
Скончыў дзед і закрый твар рукою;
Па сівой барадзе ў перагонку с сабой
Плылі ціха сьляза за сьлязою.
    — «А скажы мне, стары, аткуль ведаеш ты
    Ўсю гісторыю Янкі й Галіны?»...
    Тут стары памаўчаў і, ябцёршы сьлязу,
    Мне сказаў: — «Янук быў маім сынам»...

# На магілках.

На магілках так ціха, спакойна. Чуць шэпчуць с сабою бярозы,
Паспускаўшы галінкі свае аж да самай халоднай зямлі;
Між лісточкаў гарацъ каплі рос, як гарачые сьлёзы,
Бытцам з жалю па тых, што у гэтых магілах зляглі.

Ціш немая тут... Вецер лісточкаў бяроз не чэпае;
Адзін раз адважней ён між іх закруціў, зашумеў,
Посьле, якбы прыпомніў, што ўмершых спакой нарушае,
Сьціх і негдзе, сарваўшыся, ў даль паляцеў...

Гдзесь над берэгам рэчкі, што тут ля магіл працекае,
Сьвіснуў раз і другі заблудзіўшысь якісь салавей.
Не, у царстве памершых пеяць ён ня можа, ня ўмее:
Ён — каханьня песьняр ён песьняр, маледзёжы усей!

І замоўк... І ніштo ужо больш цішыні не трывожыць.
Між пахілых крыжоў нейкі сумны, пануры спакой.
Ні жывое душы. Толькі часам матыль крыльля зложыць
Задзержаўшысь на міг над магільнае кветкі расой.

Жадзен голас жывы не даходзіць с паветрэнай хваляй
Ў царства тых, што ў зямлі ужо нашай зышлі.
І так добра між тымі, што сьвет і жыцьцё пакідалі
І на вечны спачынак у матцы-зямельцы лягпі!..



Ваал!—Я ўсё ужо спаліла на аўтары....
Глядзі: высокаю узносіцца гарой
Мой попял — і німа ўжо больш ў мяне ахвяры,—
Дык не гудзі ты там праклацьцем нада мной,
Бо ўсё, што мела я, спаліла на аўтары...

Ахвярнік мой агонь меў вельмі загарачы:
Чуць што я клала там—згарэла ў міг да тла,
А я... я ўсё несла — не магла іначэй —
Усю душу маю я па куску несла.
А ён усё спаліў... бо вельмі быў гарачы...

Глядзі: у попелі агоньчык чуць-чуць тлее...
Во - згас! Не! зноў бліснуў залочэным рубцом:
(То дапаляецца астатняя надзея),
Што ўзоймецца ізноў гарачым ён агнём
І новая на ім ахвяра ўспламянее...

Ваал! Надзея йшчэ тліць на маім аўтары,
Пад попялу ужо застыўшая гурбой,
І хоць сягоньня я не маю ўжо ахвяры,
Ты не гудзі сваім праклацьцем нада мной,
Бо йшчэ надзея тліць іскрою на аўтары.

# Кветка Папараці.

## Фантастычны абразок у адной дзеі.

---

АСОБЫ: Хам — Русалкі.

Рэч дзеіцца на Яна Купалу. Лес. Месяц сьвеціць. Хам у мужыцкай вопратцы выходзе на акраіну лесу. Пагляд яго мутны; павароты цікаючыеся, перапалоханые.

---

Хам.

Га́дзіны ўюцца кругом,
Выюць ў імшарах ваўкі...
Во!

(Атступаючы).

Чорт ляціць за чартом,
Бьючы хвастамі ў бакі...
Ведзьмы з балота паўзуць —
Ўсе у балотнай ціне —
Штосьці жудліва пяюць.

(Сьцеражэцца бытцам ад удару).

Гразьзю кідаюць ў мяне.
Енчэ пад ногамі мох,
Штосьці так вые ў кустах,

Валежнік ліпне да ног,
Па сьпіне бегае страх.

(Атходзе).

Пайду...

(Астанаўліваецца).

Во, ведзьмы — за мной!
Вочы гарадь іх агнём...
Во, як лятуць грамадой!

(Слухае).

Во, во, аж стогне гдзесь лом.

(Бяссільна).

Не, я ўжо больш не магу!
За што-ж мук столькі здарма?!
Выбіўся с сілы ў бягу —
Кветкі-ж німа і німа.

(Агледаецца).

Лягу лепш; ўрыюся ў мох,
Вочы схаваю ў руках,
Мо не ўглядзяць, гдзе я лёг,
Мо крыху ўвоймідца страх.

(Кладзецца і начынае драмець).

Лес раптам асьвечываецца сьветла зеленаватым сьветам. З горкі ў ніз да Хама спускаюцца русалкі. Валасы іх распушчэные; белые свабодные вопраткі спадаюць да зямлі; на шырокіх рукавах даўгіе разрэзы, на галовах — зелень. На перадзе ідзе адна і трымае ў руцэ Кветку Папараці.

1-я Русалка (становючыся над Хамам).

У верас прыкрыты,
На сілах разьбіты,
На моху як сонны ляжыць,

А над галавою
Цьвет-шчасьце зарою
Сьвятлістай, ірдзістай гарыць.

2-я Русалка.

Ачнісь! Гэта кветка
Адзін раз у летку
Хвіль колькі, адно бач, цьвіце.
Цяпер твая доля
Праміне; ніколі
Ня зловіш, ня згоніш нідзе.

3-я Русалка.

Сон мёдам заклеіў,
Сон макам засеяў,
Сон вочы марочэ яго;
Сон сілы папутаў,
Сон думкі паблутаў,
А ён? — ён ня чуе таго.

4-я Русалка

Ты сьпіш, але скора
Прачнешся..

2-я Русалка.

Ня ў пору.

4-я Русалка.

Другая сьвітае пара.
Тагды лес румотам,
Ні ведзьмы балотам
Цябе не пражэне мара.

5-я Русалка.

Ты сьпіш, як дзяціна,
А прыйдзе часіна —
Устанеш — твой прыйдзе чарод;
Блеск зор залаценькі,
Луч сонца ясьненькі
З блакітных дастанеш высот.

Усе Русалкі (бяручыся разам за рукі).

Раскажмо сястрыцы
Пра ўсе небыліцы,
Каторые збудуцца з ім;
Хай чуе, хай знае,
Што яго чэкае,
Што збудзецца скора — аб тым
Раскажмо сястрыцы!

4-я Русалка (выпускае рукі, пасьля працягівае іх над Хамам, бытцым у гыпнотычным сьне.

Шырока граніцы
Раскінуліcь ўладзтва твайго, —
Далёка, шырока,
Ня скінуді вокам,
Вумом не абняці таго!...
Во, рэчные хвалі,
Сінёвые далі,
Палёў каласістых абшар;
Барок во зялёны
Дрыжачэй каронай
Купаюцца ў небі без хмар.
Жыцьцё бье крыніцай,
Ажыўчай вадзіцай,
А чыстай, вось, бытцым сьлеза!

1-я Русалка (бярэ 4-ю за руку)

Гдзе бачыш ты гэта?

4-я Русалка.

Там вечнае лета,
Там вечная шчасьця краса!

2-я Русалка.

Чый край той шчасьлівы?

4-я Русалка.

Зноў бачу, о дзівы!
Штось рушыцца, сыплецца ў пух.

Русалкі (да сябе).

Аб чым гэта мова?

4-я Русалка.

Разбіты аковы
(Радасна).
Свабодна ўзлетае...

Русалкі.

Хто?

4-я Русалка.

Дух! .

Русалкі.

Ды чый?

4-я Русалка.

Чэлавека!

Русалкі.

Якога?

4-я Русалка.

Ад века
Што лямку няволі цягнуў.

Русалкі.

Гдзе, гдзе? — мы не бачым.

4-я Русалка (выпрастовуючыся, з моцай).

Досьць енку, досьць плачу:
Ўладар к сабе ўладзтва вярнуў!

Русалкі.

Ды гдзе ён?

4-я Русалка.

Зарою
Над роднай зямлёю
Усходзе... во — сонцэм гарыць.

Высока пад неба
Азвецца, і глеба,
Бы ліст на вышыне, дрыжыць.
С чэла дзьве зарыцы —
Дзьве родны сястрыцы
Праменьні сплетаюць свае.
Да хмар даланёю
Дастаў ён адною,
Другой да зямлі дастае.

Русалкі.

Ўладар наш! О, мілы!

Хам (начынаючы варушыцца, бармочэ праз нос).

Мяне — да магілы?
Да раю?.. Чэкайце!..

4-я Русалка (нагінаючыся над ім і ўпёршы ў яго вочы).

Чаго?

Хам (громка).

Я жыць, жыць хачу я!..

Русалкі.

Сон думкі бунтуе,
Сон марамі страшэ яго.

4-я Русалка (як вышэй).

Кажы, чаго трэба?

Хам (бармочэ).

Крывавае неба!..
Га! Ведзьмы дзьве душаць мяне...
Во — кажэ — цалуе.

4-я Русалка.

Кажы больш!

Хам.

Хачу я
Сваб...
(Абрывае і бармочэ).

Русалкі.

Зморы дзьве бачэ у сьне!..

Хам (бармочэ).

Во, ведзьмаў шчэняты,
Во, во, чэрценяты
Масьцяцца, каб як укусіць.
Вон!..

Русалкі (паміж сабой).

Што, што ён кажэ?

Хам.

Вон, племя уражэ!
Вон! Сонцэ маё ўжо гарыць...

**4-я Русалка** (бярэ кветку з рук І-й і станавіцца над марМочучым Хамам).

Ўстаў дух твой, ды цела
Тваё абамлела, —
Яму йшчэ не час уставаць;
Ды йдуць часы тые, —
Яно ўміг ажые
І пойдзе стварацъ, будаваць.

**Рэха.**

Як цемра загіне,
Як ночка праміне,—
Тагды пара прыйдзе ўставаць!

**Русалкі** (усе колам).

Глянь, — месяц бялее,
Глянь, — цемра радзее, —
Ўраз пойдзем стварацъ, будаваць.

(Русалка кідае кветку яму на грудзі. Месяц гасьне. Хвіліна — цёмна саўсім. Русалкі сьпеваюць).

Глянь, — месяц бялее,
Глянь, — цемра радзее, —
Ўраз пойдзем стварацъ, будаваць!...

(Русалкі разьбегаюцца; голас ціхне; ў далі — за лесам — разгараецца зара раніцы).

Заслона.

# Сягоняшніе і даўнейшые.

## Драма у 3-х дзеях.

---

АСОБЫ:

Гаспадар — шляхціц, стары ўдавец.
Раман — малады сын яго, скончыўшый школу.
Саўковіч } старые шляхты,
Панкратоўскі } госьці Гаспадара.
Ганула — селянская дзяўчына.

---

## Дзея 1-я.

Рэч адбываецца у двары Гаспадара. Сталовы пакой; над сталом гарыць вісячая лямпа, на стале — выпіўка і закуска. Гаспадар і госьці выпіваюць і закусываюць. Раман стаіць ля вакна. Вечэр. Час летні.

---

Гаспадар (наліваючы і падымаючы чарку).

У вашы рукі, паноўе!

Госьці.

Дай Божэ вам на здароўе!

Панкратоўскі.

Мёд ваш, відаць, ох, старэнькі?
Гляк, бач, ад моху сівенькі...

Саўковіч.

А які коляр! Ірдзіцца,
Як тая ў маі расіца.
А як нутро сагравае!

Гаспадар.

О! лет за сотню ён мае...
Ды піце ж толькі, паноўе!
(Падымаючы чарку).
За гасьцей мілых здароўе!

Госьці.

Дай Божэ!..
(Пьюць і закусываюць).

Панкратоўскі (падмігіваючы на Рамана):

Пане Рамане,
Шак мёду хіба ўсім стане —
Гляк, бач, вялікі. Хадзеце!
(Наліваючы мёду).
Ну, да мяне вось прапеце.

**Раман** (ад вакна).

Дзякуй! Нядобра мне нешта, —
Выпью — горш будзе да рэшты:
Штось галава разбалелась...

**Саўковіч.**

Думка якаясь засела.

(Да Рамана).

Хоць мы ўжо, брат, і старые,—
Прайшлі ўжо часы нам тые...
Ды знаем гэта, ох, братка —
Псуюць вам дзеўкі парадкі
І у галоўцы, і ў сэрцы,
Пакуль не стаў на каберцы.

(Сьмяецца. Да старых).

Скуль яны толькі умеюць?!
Проста дурманам навеюць...

(Дражнючы).

Ось, як начне вышчэрацца,
Бокам глядзець, усьмехацца
Ды лезьці мухай у вочы,—
Ад мёду горш замарочэ.

(Да Рамана).

Ты, братка, іх сьцеражыся,
Маладым, бач, не жаніся,
Бо ўжо, як з бабай зьвязаўся,
З жыцьцём на векі расстаўся.

**Раман** (насьмешліва).

Дзякуй за раду!

**Гаспадар.**

Жаніцца?!
Э, трэ' йшчэ жыць павучыцца,
А то ўсё толькі па кніжцэ...
Так стравы збракне у місцэ;
За бацькам век не пражыці:
Мне ўжо пара атпачыці.

(Налівае).

Ну, паны, йшчэ во па чарцэ!...

**Панкратоўскі** (з усьмешкай да Рамана).

За поступ ваш ў гаспадарцэ!
Ды толькі, пане Рамане,
Вас кніжка болей, бач, мане,
Як валы, коні й кароўкі.
Ну, за здароўе галоўкі!

(Пье).

**Раман** (горка).

Дзякуй! Ды толькі, мой пане,
Мяне ўжо й кніжка не мане.

**Саўковіч.**

Пажджы, як дзеўка якая
У галоўцы думкі зблытае,

Залатым путам акруце,—
Пойдзеш, як конь у хамуце.
Выйдуць «ідэі» з галоўкі,
Будуць валы і кароўкі,
Будзе і грошыкаў многа;
Ўсім гэта сама дарога.

Гаспадар.

Дай Божэ! Гэтак і трэба.
Зямлі досьць будзе і хлеба...
Ну, піце, ешце, паноўе!

Панкратоўскі.

За усіх дзевак здароўе!

(Пьюць. Раман пагледае ў вакно, ўрэшце выходзіць у дзьверы).

Панкратоўскі (да гаспадара).

Дык вашы, мілы суседзе,
Так не далёка заедзе;
Яму ня быць гаспадарам,
Толькі — якімсьці пісарам.
Якіесь новы ідэі
Яму там горад навеяў:
Ён з мужыком за пан-браты,
Ходзе ў мужыцкіе хаты —
Наўкол гаворуць так людзі.

Саўковіч.

Ён гаспадарам ня будзе,
То гэта болей як пэўне;

Маёнтак страціць дарэмне.
Кажуць, што ён з мужыкамі
Вось так, як быццым і з намі:
Руку ім, бач, падавае —
Гэта-ж прыкмета благая.

Гаспадар.

Я гэта й сам, браткі, бачу,
Ды якжэ-ж зробіш іначэй?
Са мною дзіўне ён скрыты.

Саўковіч.

Ды ці-ж у цеме ён біты?!
Маёнтак ваш ешчэ, пане.
Як гаспадарыць ён стане,
Тады лад новы пакажэ.

Панкратоўскі.

Ось, я вам браце параджу:
Вы яго лепш не трымайце,
А ў сэмінар'ю аддайце —
Гэта хлеб лёгкі і пэўны.

Саўковіч.

Там — ксёндз-прафэсар мой крэўны, —
Вось і пратэкція будзе.

Гаспадар.

Дайце-ж падумаць мне, людзі.
Мо гэта й добра?

Панкратоўскі.

Вядома!
Малодшы хай будзе дома,
Ды яму кніжнай навукі
Не шмат даваць трэ' ў рукі;
Нашто памешчыку трэба
Зоры лічыць сярод неба, —
Ён не на зорах хлеб сее;
Лепш гаспадарыць хай ўмее.

Саўковіч.

Гэта — найлепшая штука.
Нашто ім гэта навука?
Толькі ў галовах марочэ.

Гаспадар.

А як Раман не захочэ?

Саўковіч (скора).

Ну, а вы-ж, браце,— не бацька?
Толькі вазьміцеся хвацка...

Панкратоўскі.

Бачыце справы такіе:
Ён нам парадкі старые
Псуе. Сышоўся с хамамі,
Якбы з якімі сябрамі,
На полі з імі гукае...
Ці-ж пану так выпадае?

Так скора жаднай пашаны
Хам мець ня будзе для пана
Ксёндз — гэта іншая штука:
Век будзе с хамам ён гукаць,
А той ў ём бачэ паў-бога.
Раману гэта дарога
Ў жыцьцю найлепш надаецца.
Дык ці-ж тут слухаць дзіцяці?
Яго німа й што пытаці
Ці хочэ ён, ці ня хочэ.
Тут бацькі роднаго вочы
Ўбачылі шчасьце для сына —
Вось і ўся гвалту прычына.

**Саўковіч.**

Пэўне!... Сын біскупам будзе,
Вось і ты выйдзеш у людзі,
Ці-ж не?.. Ён мусіць паддацца, —
Мудра трэ' толькі узяцца
Хітрыць.

**Гаспадар** (горача).

Сьвет цэлы парушу,
А бацькі слухаць прымушу:
Ксяндзом ён будзе!

Заслона.

---

## Дзея II-я.

---

**Стары сад панскі. Пад дзеравам лаўка. На небі сьвеціць месяц. З-за кустоў показываецца Гануля.**

**Гануля** (азіраючыся).

Нема йшчэ! Што-ж гэта такое?
Мо здарылася штосьці благое?
Сягоньня мяне стара маці
Трымала так доўга ў хаці;
Ўжо думала тут ён — чэкае,
Аж не — наша лаўка пустая...

(Пауза).

Ды прыдзе Раман мой міленькі,
Саколічэк мой даражэнькі;
Ён знае, што жджэ тут Гануля,
Ўцёкшы тайком ад матулі.
Мо ён ў кустох дзе схаваўся?...

(Прыслуховаецца).

Во шорах якісьці раздаўся.

(Патходзе да кустоў і варочаецца назад).

Не — пуста — нема там нікога!

(Сядае на лаўку. Задумываецца).

Вось звёў Бог ў вадно дзьве дарогі,—
Ніколі і ў сьне не прысніла,
Ды вось паніча палюбіла,

Раманку майго дарагога...
Вось дзіўная долі дарога!

(Паўза).

Ды дзіва-ж было пакахаці!
Такога з лучынкай шукаці:
Як гляне — што мёдам памажэ,
Бы сонцэм сагрэе — як скажэ;
Вось слухаць і слухаць здаецца —
Так гутарка складна ліецца.

(Паўза).

Якраз год таму мы спаткаліся:
Я помню — ў двары жыта жала, —
Гукаў ён са мной і сьмеяўся...
Такім мне у сэрцы й астаўся,
Заўсёды такім яго бачу, —
Ды якжэ-ж быць можэ іначэй,
Калі ў сьне, на яве, дзень [redacted] ночай
Стаяць мне ў вачах яго вочы.

(Са стараны двара выходзіць паніч. Ганулі зрываецца).

О йдзе ўжо, ідзе мой Раманка!
Не дарма чэкала тут Ганка.

(Падбегае да яго).

Даўно ўжо, мой мілы, чэкаю...

**Раман** (вочы яго сьвецюць каханьнем; прыцягівае да сябе Ганулю).

Выбач мне, мая дарагая...
Ды [redacted] бацьку прыехалі госьці,
Сядзелі там доўга чагосьці,
Ці можэ мне ўжо не цярпелась —
К табе ісьці, Ганя, хацелась.

(Цапуе яе).

Мая ты сьветляная зорка!...

(Паўза; уздыхаючы).

Ох, мучыць мяне іх гаворка!

Гануля.

Мой мілы!...

(Сядаюць на лаўцэ. Гануля апэрае галаву на грудзях Рамана. Месяц сьвеціць праз галіны).

Раман.

Ганулька! Кахаеш?...

Гануля.

А ты йшчэ аб гэтым пытаеш,
Мой мілы саколік! Мой Божэ,
Ці больш хто кахаці ўжо можэ?!
Ці со сну ўстаю, ці кладуся, —
Табе так, як Богу, малюся;
Ці тку, ці праду лёну жменькі, —
Стаіш ты ў вачах, як жывенькі, —
Забудуся што і рабіла.
На сэрцы так лёгка, так міла,—
Аж дзівіцца часам матуля:
— «Што гэта с табою, Гануля?
«Што тут за такая прычына?
«Дурэеш чагосьці, дзяўчына».
А я памаўчу, засьмяюся,
Ды зноў за работу бяруся.
А ты йшчэ пытаць, ці кахаю?..

**Раман** (з дзіўным смуткам і каханьнем у голасі).

Ганулі мая дарагая.
Мой сьветлы праменейчык сонца
Ў жыцьця майго цёмным ваконцы!

(Паўза. Горка).

Праклятый той дзень і гадзіна,
Як пана радзіўся я сынам,
Як зводнай навукі туманы
Зацьмілі мой сьвет счараваны,
Даўнейшую веру забралі,
А новай — ні ў вошта не далі!..
Бывала, шэпталі мне зоркі
Знаёмые сэрцу гаворкі,
І сьніўся ў гары мне дом Бога
С праменнай малочнай дарогай,
Палёў шыр, луговы каберцы—
Наўкол ўсё так блізкае сэрцу...
Сягоньня усё ўжо іначэй—
У іншых калёрах ўсё бачу.

**Гануля.**

Чаму гэта, мілы?

**Раман.**

Бо былі,
Бач, людзі, што думаць вучылі;
Мне веру старую забралі,
А ў замен нічога не далі.

**Гануля.**

Ты, мілы Раманка, сын пана,
Разумны ты, эдукаваны, —

Ня ўсё я пайму, што учую,
Ды бачыш я гэтак мяркую:
У Бога ліш верыць нам трэба,
Што мае свой дом сярод неба,
Што месячык даў залаценькі,
Каб нам ён сьвяціў найміленькі;
Даў сонца праменьне, каб грэлі,
Даў птушкі, каб песьні нам пелі;
І зоры што ноч запаляе
Рука яго ў небі сьвятая,
Каб гдзе не блудзіў падарожны...
Глянь кожную траўку, куст кожны —
Ўсё гэта даў добры Бог з неба,
За тое кахаць яго трэба.

**Раман** (цалуе галаву Ганул ).

Мая ты, галубка малая,
Гануся мая дарагая,
Чаму-ж я не маю тэй веры?
Чаму-ж мой сьвет гэтакі шэры?
Як гляну я розуму вокам —
Там неба не бачу высока,
Абшар там, як сажа, так чорны
Раскінуў хтось дзіка-праворны,
А зоры у гэтым абшары
Пылаюць адвечным пажарам;
Іх хтось запаліў там ад веку,
На што? — знаць не даў чэлавеку.
І дарма на загадкі сьвету
Даём мы разгадкі ўсё гэты,
Бо мром, не згадаўшы нічога...
Там блудная вельмі дарога.

Ганупя.

Ды якжэ гаворыш ты, мілы? —
Ўсё гэта нам боская сіла
Дала, што на сьвеці мы маем.

Раман.

Не, Ганка мая дарагая!
Ўсё гэта ўжо быўшы ад векаў
Зрадзіла с сябе чалавека.

Ганупя (абымаючы яго).

Ты дзіўне гаворыш, Раманка, —
Ня пойме цябе твая Ганка...

Раман.

Хай, Ганю, душа маладая
Твая лепш аб гэтым не знае;
Ўсё гэта не дасьць нам нічога,
Ліш будзіць у думках трывогу...
Я часам хачу так забыцца
Ўсяго, чаго мусіў вучыцца,
І жыць, як той люд наш вясковы,
Спакойны, вясёлы, здаровы, —
Ніводная думка благая
Яму сну з вачэй не зганяе;
Хоць горэ часамі акруціць,
Хоць голад, хоць холад дакучаць, —
Яго дух, як тая крыніца,
Бурлівай вадой не бурліцца.
Яго боль — то верхніе фалі
На рэчкі спакойным крышталі;

Як хвалі — і ён так праміне,
Ня змуціўшы вод на глыбіне,—
Ды йзноў с ціхай моцай струіцца...
А іншы ёсьць дух, як крыніца:
З нутра яго бурны патокі
Лятуць, грымяць фаляй высока,
Пакуль у нутры сіл хапае;
Німа іх — і ўсё замірае,
І гіне жыцьцё чэлавека...
Так ёсьць і так было ад веку.

(Паўза. Спакайней).

Мяне да вясковаго люду
Дух цягне іх — вольны ад жуды;
Яны не цікуюць нічога —
Ім простая ўсюды дарога:
«Усё даў нам добры Бог з неба,
«Затое кахаць яго трэба».
Ім сьвет аб сабе сам гаворэ.

Ганулря.

Ты кажэш: німа у іх гора,
Раманка міленькі. Дарэмне:
Яны больш паноў церпяць—пэўне.
Ці ёсьць горшы боль, калі ў хаці
Німа куска хлеба дзіцяці;
Калі ў вачах чахне дзіцятка,
Ціж мала цярпіць тады матка?
Раманка! ты толькі не бачыў:
Сьлязьмі яны горкімі плачуць.
Паны?.. ім усяго хапае,
З іх голаду жадзен не знае.

Раман.

Бач, Ганю: ёсьць голад дваякі:
Адзін — яго знае усякі,
Хто хлеба у хаце не мае;
Другі — яго той толькі знае,
Хто духам з зямлі адарваўся —
Да неба-ж высот не дастаўся.
Ды знай, хто раз неба убачыў —
К зямлі не павярне іначэй,
Як з голадам страшным у душы,
Што мозг, душу, сэрцэ ўсё ссушэ.

Гануля.

Ты сумны чагось, даражэнькі!
Чаго, мой саколік міленькі?
Чаго?—Раскажы ўсё Ганулі.
Ці госьці так думкі папсулі?..
Лепш кінем мы гутарку гэту;
Што нам да людзей, што да сьвета?
Ў цябе, мой міленькі ёсьць Ганка,
Ў мяне-ж — мой саколік, Раманка, —
Ці-ж гэтаго нам не хапае?

Раман (горача тулячы яе да сябе).

Ты зорка мая залатая!

(Цалуе яе).

Заслона.

# Дзея III-я.

Дом вясковай плебаніі. У кабінэце на софі ляжыць Раман—ксёндз — с кніжкай у руках. На твары яго чырвоные плямы сухот. Кашэль раз-у-раз прарывае цішыню; вочы бліщчаць гарачкай. Разлегаецца званок—уходзіць доктар.

Доктар (жартабліва).

Як маемся!
(Падае руку).
Ўжо вы адзеты?
Не надта, каб добра нам гэта;
Каб сьмела ўжо можна устаці,
Даўжэй трэ было-б палежаці.

Раман (неахвотна).

Скажыце, мне пане, на што вы
Мне сілай кладзеце аковы
Жыцьця?—Шак яно дагарае.
(З раздражненьнем).
І сам ты надзеі не маеш,
Каб я быў здаровы.

Доктар (с сілай).

Маўчыце!
Ось лепей мне пульс пакажыце.

(Бярэць руку Рамана і глядзіць на гадзіннік; твар доктора пахмурнее).

**Раман** (з усьмешкай).

Ну што — не цекавые весьці?

**Доктар** (нехаця).

Не-е-е!
(Жыва).
Болей трэ толькі вам есьці.
І сьвежага воздуху многа.

**Раман** (горка).

Ха-ха-ха! Й болей ня трэба нічога?
І гэта здароўе даць можэ!
(Шчэплівае рукі).
Эх, Божэ, ты, мілы мой Божэ!..
(Да доктора).
А што-ж мне дасьць ваша навука?
На хворай душы маей мука...
Боль сэрца... Тут хіба ўжо, пане,
І вашай навукі не стане!..
Гдзе-ж лекі, ўняць каб мучаніну
Душы ўсей, хваробы прычыну,
Што зводзіць жыцьцё да астатка!..
(Горача).
Ты лечыш с канца не с пачатка...
(Бяссільна апускаецца на софу).

**Доктар** (спакойна, ня слухаючы).

На станцію высланы коні:
Сестра міласэрдзя сягоньня

Прыедзе. Вам трэба дагляду, —
Яна тут вам скора дасьць раду.

(Раман махае рукой і адварачываецца).

**Доктар.**

Ну, мне ўжо пара! — там чэкаюць:
Сягоньня работы шмат маю.
Вы лішне ня мучцеся мовай, —
Больш ешце. — Ну, будзьце здаровы!

(Падае руку і выходзе. Раман устае і звольна начынае хадзіць па пакоі).

**Раман** (адзін).

Разьбіўшы жыцьцё — й с тых астаткаў
Жыцьця стварыць хочуць пачаткі.

(Сьмяецца горка, посьле шчэпляе у роспачы рукі).

Сам болей нічога не маю, —
Чаго-ж ім ешчэ не хапае?
Жыцьцё толькі-толькі што тлее;
Ўсе чыста разьбіты надзеі,
Ўсё згасла — яны-ж на тым зглішчы
Разьвесьці йшчэ хочуць вагнішчэ.
Шак дроў там німа ўжо, эх, людзі!
Шак попел гарэці ня будзе...
А бацька ў сьмяртэльнай гадзіне
Хацеў бачыць біскупа ў сыне, —
Ды ўбачыў ліш плямы во гэты.

(Паказывае на твар).

Мест біскупскіх строеў, фьёлетаў, —
Сканаў, якбы жоўці напіўся, —
Так твар пачарнеў, выкрывіўся.

Нешчасны, сваімі рукамі
Скапаў сыну роднаму яму,
І сам, бедны, лёг у магілу:—
Крыж стаў у канцы не пад сілу —
І сэрцэ ў грудзях разарвалась,—
За шмат, відаць, сьлёз там набралась!..
Бяздольны!..

(Ходзіць нэрвова па пакоі; у вачах паяўляюцца непрытомные блыскі).

Татуля! Ўраз сына
Ў жалобнай убачыш краіне.
На гэтай бяздольнай зямліцы,
Стаючы ў парозі грабніцы,
С табой прымірыцца ён хочэ;
За ўсё — за бяссонные ночы,
За душу маю катавану,
За мукі Ганулі каханай,
За сьлёзы жаўцёвай гарычы,
Каторых сам Бог не палічэ,
За моладасьць ўжо разьбітую,—
Татуля, за ўсё я дарую!
Судзьдзёй табе сын твой ня будзе,
Хай лёгка Хрыстос цябе судзе.

(Апускаецца бяз сіл на софу з глухім стогнам. Раздаецца званок, — уходзе сестра міласэрдзя — Гануля. Раман падымаецца с софы і аткідаецца да сьцяны, гледзючы на кабету непрытомнымі вачыма).

Гануля (падыходзючы; дрыжачым голасам).

Ня бойся, мой мілы,
Ня труп я з магілы,
Хоць белы мой твар, як мука;
Хоць вочные ямы счарнелі,

Хоць вочы у глуб паўпадалі —
Цябе, бач, усё выгледалі —
Хоць раз ешчэ ўбачыць хацелі;
А чым ты атходзіў далей —
Яны западалі глыбей,
Пакуль не запалі у глуб.

(Працягае рукі).

Даткніся, — мая вось рука
Хай скажэ табе, што ня труп
Прышоў да цябе із магілы...
Ня бойся, мой мілы!

(Падыходзіць).

Чаго-ж ты увесь пабялеў?
Дрыжыш, як у полі асіна.

(Раман апіраецца аб сьцяну).

**Ганупя** (да сябе).

Хістаецца — ён абамлеў...
О Божэ! ўсяму я прычынай.

(Да Рамана).

І ты, ты баішся мяне?!

**Раман** (непрытомна).

Га! прышласьці труп — белы труп!..

**Ганупя** (горка).

Я — труп? О не, мілый мой, не!
А труп мо, дык іншы — ня с тых,
Што ў маці - зямельцы лежаць,
А іншы — із трупаў жывых, —

Ня рэдка іх можна спаткаць.
Яны не ў магілах гніюць,
А носюць магілы ў сабе,
Схаваны ў грудзей ўласных глуб...

Раман (так сама).

Цябе ж гэта бачу, цябе?!
Мест словаў — атрута струіцца
З глыбокай - глыбокай крыніцы
Душы..

Гануля.

О! Ў глуб тэй душы
Палохайся ты загледаць:
Там енкі, там стогны чуваць;
Яны — горш магільнай цішы,
Там сэрцэ, запёкшысь ў-крыві,
Шчарнела горш гробаў цямні.
Пад векам — пакрыўкай труны —
Сто раз дух ачнецца жывы
І сто раз сканае ізноў,
Ня вынясшы болю свайго.

Раман (так сама).

Чые-ж гэта словы, каго?..
Кроў брызгае гэтак балючэ
І паліць пажарам пякучым
Душу маю... Хтосьці гаворэ,
А словы агнёў цэлым морэм
Ліюцца...

**Гануля** (апрытомнеўшы).

Раманка!..

(Бярэ якісь пузырок з лекамі і, кідаючыся да Рамана с плачэм, стараецца апрытомніць яго).

**Раман** (так сама).

Хтось плачэ?..

(Гледзючы на яе).

Гануля, цябе-ж гэта бачу?
Ах, помню... Слоў страшная сіла
Вужакаю дух акруціла...

**Гануля** (падтрымоваючы яго; з роспачай).

Раманка!..

**Раман.**

Труп прошласьці смутнай, труп белы
Устаў із магілы сплясьнелай;
Мест словаў атрута струіцца
З глубокае сэрца крыніцы, —
Агнямі мозг паліць... гарыць...

(Падае і млее).

**Гануля.**

О Божэ!.. Карае... Раманка,
Ачніся! То я, твая Ганка!..
Ачніся!.. Га...

(Валіцца на грудзі яго).

Заслона.

## ЗМЕСТ.

Стр



---

Литературно-художественное издание

*БУЙЛО КОНСТАНЦИЯ*
*(Калечиц Констанция Антоновна)*

**КУРГАННЫЙ ЦВЕТОК**

*Стихи, драматические поэмы*

Факсимильное издание

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

*БУЙЛО КАНСТАНЦЫЯ*
*(Калечыц Канстанцыя Антонаўна)*

**КУРГАННАЯ КВЕТКА**

*Вершы, драматычныя паэмы*

Факсімільнае выданне

Адказныя за выпуск *Г. С. Шупенька, Л. Я. Прагін*

ІБ № 3375

Падп. да друку 04.11.88. Фармат 60×84 1/16. Папера афс. № 2. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 5,5. Ум. фарб.-адб. 5,59. Ул.-выд. арк. 3,08. Тыраж 8000 экз. Зак. 1992. Цана 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

Б $\frac{4702120202-042}{М 302(03)-89}$ БЗ 190—88

ISBN 5-340-00584-4

МІНСК, «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА», 1989

Усе, каму дарага і блізка справа жыцьця і адражэньня Беларусі і Беларусаў, выпісывайце, чытайце і шырце беларускую газэту

# „НАША НІВА“

гэта душа думак і патрэб Беларусі.

Цэна с перасылкай да хаты: на 1 год—2 руб. 50 г., на 6 м.—1 р. 25., на 3 м.—65 к., на 1 м.—25 к.

Заграніцай: на 1 г.—4 р., на 6 м.—2 р., на 3 м.– 1 р.

Адрэс: Вільня, Віленская вул. № 29.

**Пробные нумэры высылаюцца дарма.**

Падпіску прыймае такжэ „Беларуская кнігарня“, Вільня, Завальная 7.

Беларуская Выдавецкая Суполка

## Загляне сонцэ і у нашэ ваконцэ.

Прыймае да друку усякіе беларускіе рукапісы. Выдае кніжкі навучные, бэлетрыстычные і інш. Цяперака выпускае у сьвет часопісь „Маладая Беларусь“, таўстые 4 сшыткі за 3 рублі, аддзельна кожны сшытак па 1 р.; вышла з друку ужо тры сшыткі.

Новые сябрукі прыймаюцца у „Суполку“ за згодай усіх цяперашніх поўнапраўных сябрукоў; сябруцкі уанос ня меней 50 руб. за раз. У супольнікі можэ кожны запісывацца, хто унясе адразу ня меней 10 рублёў.

Адрэс „Суполкі“: С. Петербург, В. О., 4, линія д. 45, кв. 16.